Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага № 40 грошы.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Караleўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 4 зл., на паўгоду — 2 зл. — гр., на 3 мес. — 1 зл. — гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

## ЗЬМЕСТ:

# Беларуская Борць

**Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак**

№ 3 САКАВІК 1936 г. ГОД III.


## Пчалярства

Выабразіце сабе, паважаныя грамадзяне пчаляры, якое можа быць пачуцьцё чалавека, каторы дапусьцім чытае нейкую лекцыю з завязанымі вачамі: не бачачы сваіх слухачоў, больш гэтага ня ведаючы, хто яны, як рэагуюць на яго словы, ці гэтыя словы прыносяць пэўнае ўражаньне, дадуць нейкую карысць і г. д.

— Вось у гэтакім палажэньні, чалавека, з завязанымі вачамі, знаходзіцца рэдакцыя „Бел. Борці“

— Як ня сумна, але трэба прызнацца, што паміма значнага ліку падпішчыкаў, дагэтуль (3-ці год працы) ня маем яснага прадстаўленьня аб стане нашага пчалярства.

Паміма заклікаў ды просьбаў —пчаляры маўчаць...

Гэтак далей быць ня можа!

Каб бачыць ясна перад сабой дарогу, па якой маем ісьці для дабра нашага пчалярства, мусім зьмяніць сучасны стан рэчаў і дзеля гэтага, пачынаючы з г. нумару, будзем даваць кожны месяц пару актуальных пытаньняў. Даць, адказ на іх—маральны абавязак кожнага чытача і падпі[illegible]чыка. Адказы можна прысылаць на паштовых пісульках.

Калі адказы дае некалькі пчаляроў з аднае ваколіцы, могуць іх прыслаць у адным лісьце.

Цешым сябе надзеяй, што пчаляры зразумеюць карыснасьць гэтакай формы супрацоўніцтва і ніхто не адмовіцца ад спаўненьня свайго абавязку, а мы зможам лепш ар'ентавацца ў патрэбах пчаляроў і падбіраць адпаведныя матэрыялы.

**Просім адказаць:**

1) Колькі маю пчаліных семьяў?

2) Якія маю сыстэмы вульлёў?

3) Дзе пчолы зімавалі (на дварэ, у зімоўцы і г. д.)

4) Ці ўжо рабілі пчолы аблёт? (падаць дату, меньш-больш).

**РЕДАКЦЫЯ.**

# У ВУЛЬЛЯХ САКАВІКУ.

Пры тэмпэратуры 11—12° Ц. пчолы пачынаюць аблятацца, каб ачысьціцца ад калу, які праз усю зіму назьбіраўся ў кішках. Падчас аблёту пчаляр павінен абавязкава быць у пчальніку, каб бачыць, як якая сям'я аблятаецца і па гэтым судзіць аб іх стане. Сем'і, якія добра, моцна лётаюць, трэба адзначыць, што ў іх усё ў парадку; іншыя, якія аблятаюцца слаба, або зусім ня выходзяць з вульля трэба таксама абазначыць і, па магчымасьці зараз пасьля аблёту агледзець. — Калі пчолы прапалі заткнуць вылет і аставіць вульлей пакуль што на мейсцы; калі знойдзем пчолы хворыя на ляксу, то перамяняем ім рамкі на чыстыя, гнязд паменьшаем і цёпла накрываем; у вечары даем ім рэдкага цукровага сыропу з саліцылявым квасам. Галодным пчолам даем, калі ёсьць запасовыя рамкі з мёдам, або 1—2 літры цукровага сыропу, які варым бяручы 1 часьць цукру на 2 часьці вады.

На другі дзень пасьля аблёту, калі пагода добрая, трэба зрабіць першы перагляд падмятаючы адначасна дно вульлёў. Пераглядаць трэба хутка, каб не празябіць чарвы і не сьцягнуць нападу.

Пераглядаючы запісываем сабе стан кожнага вульля. Насамперад глядзім ці ёсьць чарва і якога ўзросту. Калі няма чарвы, трэба старацца знайсьці матку; пасколькі маткі ня будзе, то сям'ю найлепш гэтага самага дня злучыць з іншай, дзе ёсьць добрая матка.

Знайшоўшы пустыя рамкі бяз мёду і пяргі выймаем з гнязда. выкідаем таксама рамкі заплясьнеўшыя.

Калі-б уцяпленьне было вільготнае або сапрэўшае, то замяняем яго сьвежым. Пасьля перагляду рамкі добра сьціскаэм і шчыльна абкрываем, помнячы, што вясной пчолы патрабуюць шмат цяпла.

Пчолы гадуючы чарву мусяць мець пяргу, якая мае ў сабе шмат бялкоў. Калі-б у вульлі ня было запасу пяргі, а холад не пазваляў пчолам вылетаць або і пяргі ў прыродзе яшчэ-б ня было, то трэба абавязкава падкарміць пчолы гэтакай ежай, якая-б мела ў сабе бялкі. Да гэтакай ежы належыць малако і бялок з курыных яек. Адно і другое даецца пчолам з цукрам. Малако даем сьвежае, у невялікай колькасьці, каб пчолы яго адразу забралі (каб ня скісла), бяручы 2 часьці цукру на 1 ч. малака. Калі пчолы да малака прывыкнуць, колькасьць цукру можна паступова зьменьшываць, каб дайсьці да 1 часьці цукру на 2 ч. малака. Падкормліваючы бялкамі бярэм іх сьвежыя і, зьбіваем на пену на 1 часьць якой дадаем 2 часьці цукру.

---

# Зьмена старой маткі.

Добра ведама кожнаму меншбольш знаёмаму з пчоламі чалавеку, што тады толькі можна мець даход ад пчол, калі пры спрыяючай пагодзе, рой сільны, ці, як кажуць, многамушны. А многамушны рой бывае тады, калі пры дастатках корму мы маем у вульлі маладую матку.

Хоць і з першых гадоў майго пчалярства я ведаў, што даход пчаляра залежыць ад добрай маткі, ведаў, што ў такім то вульлі матка старая і яе трэба зьмяніць. Разьбяру вульей, злаўлю матку, палюбуюся: жаўтаватая, такая вялікая, з такой павагай сунецца па рамцы, шкода неяк стане выкі-

даць, дык і пушчу яе назад у вульлей, можа і не яна вінавата, што гэты вульлей не дае сёлята мёду. Чакаю вясны, аж тут на табе: шукаю, шукаю маткі — няма. Праз дзень – другі зноў шукаю: у лепшым выпадку — няма, у горшым — пчала трутоўка наклала яечак. І так кепска і гэтак ня добра. Калі яечак няма, даю іх з другога вульля. Выходзіць матка. Трутняў на борці яшчэ няма, матка лётае, лётае, каб з імі спаткацца, нарэшце збрыдне, перастае вылетаць з вульля, застаецца назаўсягды ялаўкай і толькі пахаджвае па плястрах, як добрая пані, а калі і стане класьці яечкі, то з іх выйдуць толькі трутні, і такі рой пратрымаецца ў вульлі, пакуль рабочыя пчолы будуць мець магчымасьць пражывіць іх, нарэшце ўсе разьлятаюцца. Калі ад гэтага ўсьцерагчыся, кожную, перазімаваўшую дзьве зімы матку, мы мусім зьмяніць на маладую, бо толькі гэтакая матка кладзець найболей яечак, раі бываюць найсільнейшыя, а значыцца і даюць найболей мёду.

Скуль жа, цяпер пытаньне, набрацца тых маладых матак, каб на ўсей борці зьмяніць старых матак на маладыя?

Першае, што трэба зрабіць на борці, дык гэта панумэраваць усе вульлі і запісаць у сшыток нумар вульля, год і месяц выхаду з матачніка маткі, як рана вылятаюць на работу і ці да пазна працуюць, лагоднасьць пчол і які даюць даход. Можна яшчэ рабіць шмат якіх запісоў, але вышэй сказаныя, мусяць быць на кожнай, нават малой борці, бо на добрую сваю памяць надзеяцца ня варта. Цяпер, глянуўшы на гэтыя запісі мы відзім, дзе старыя маткі і ў якім вульлі найлепшыя пчолы. Ад гэтых, найлепшых пчолаў мы і мусім браць сьпелыя матачнікі, ці яечкі для вываду маладых матак. Вось роўна гэтак, як ад добрай кароўкі мы стараемся пакінуць на племя цялушачку. Вялікую ролю, праўда, адыгрываюць трутні, а дзеля гэтага ў адзін з лепшых вульлёў трэба паставіць у гняздо рамку трутовую, а ў рэшту вульлёў старацца саўсім трутовых не даваць. Сотню - другую трутняў пчолы і так вывядуць, нават тады пчолы лепей працуюць, бо саўсім у вульлі бяз трутняў усёроўна, як на балі адны жанчыны бяз мужчын ці наадварот.

Як вывесьці маладых матак ёсьць надта шмат спосабаў і кожын пчаляр мусіць знаць іх хаця некалькі, каб не прамінуць нівольнага добрага здарэньня, які трапляецца на борці. Выйшаў рой, — вот ужо й маем у старыку некалькі раёвых матачнікаў, толькі не спазьніцца іх выразаць (ні пазьней 12-га дня ад выхаду чарвячкоў) бо, калі пчолы ня думаюць раіцца, першая вышаўшая матка, зьнішчыць усе матачнікі.

Можна, пры слабым мёдабраньні і надта добра, калі патрапім пад пагоду, за дзён 8—10 перад галоўным мёдабраньнем ад лепшых пчол саўсім забраць матку. Пчолы ня толькі вывядуць сабе маладую матку і дадуць нам некалькі добрых матак у матачніках, а яшчэ і дадуць даходу больш за другіх, бо за гэтыя 8—10 дзён яны засклепяць усіх чарвячкоў, меней будзе расходу на мёд і болей вольнага часу для зьбіраньня мёду. Што-ж рабіць з гэтымі запячатанымі матачнікамі, каб мець добрыя маткі?

Маючы пчол у вульлёх, якія маюць лётку з боку, выймаем рамку з чэрвай і яечкамі, і з усімі пчоламі, што на ёй сядзяць, толькі без маткі, другую — з мёдам, у ніз яе, калі няма мёду, наліваем вады, а не, у запасную рамку і ставім за адгародную дошку насупроць запасной лёткі. Калі пчол

малавата, то страсаем яшчэ з аднэй — другой рамкі, бо старыя пчолы вернуцца ў сваё гняздо, а астануцца толькі маладыя. Адгародная дошка павінна даходзіць да падлогі і ня мець аніякіх праходаў для пчол.

Праз 24 гадзіны ў гэты вульлёк устаўляецца, ці то ўрэзываецца ў рамку з дзеткай, ці проста ўшчэмліваецца паміж плечыкаў рамак матачнік, але так, каб быў прыціснуты толькі воск, што пры матачніку, а не матачнік. Пры ўсіх апэрацыях з матачнікам трэба паслуговывацца толькі тым кусочкам наўзы, што пры матачніку, а не апошнім. Пераносіць жа яго абявязкава ў скрыначцы, вылажанай ватай. А калі часам выпадзе з рук, то ня варта даваць пчолам, бо матка можа саўсім ня выйсьці, або быць калекай. Калі пагода добрая, матка скора спаткаецца з трутнем, якое бывае досьць высака ў паветры і праз некалькі дзён пачне класьці яечкі. Цяпер разьбіраецца старое гняздо, ловіцца старая матка, адгародная дошка заменяецца токой-жа, але з дзюрачкамі, а праз ноч, як пчолы абодвух вульлёў прымуць аднолькавы пах, (бо пчолы пазнаюць адна адну толькі па паху) дошку вымаюць і дзьве сям'і злучаюцца разам.

У каго вулей Дадана (у мяне ўнівэрсальны Анатолія Путкевіча), то трэба зрабіць лётку ззаду, толькі не насупроць пярэдняй. Цяпер захацеўшы зьмяніць матку, за адгародную дошку перастаўляем рамку з мёдам, яечкамі і чэрай, дадаём рамак з сушай, а старыку ў пустую рамку наліваем вады (можна трохі прысаліць) і перакручываем вульлей так, каб запасная лётка апынулася на мейсцы галоўнай і наадварот. Лётная пчала з гнязда пераляціць на пустую часьць вульля, праз 24 гадзіны даем ей матачнік, яна выводзіць сабе маладую матку, а ня маючы каго карміць, досьць шчыра працуе. Радам матка добра чэрыць і папаўняе штодзеннаю трату пчол. За колькі дзён перад галоўным мёдабраньнем нішчым старую матку і, як раней, пчол злучаем разам.

Я яшчэ зрабіў малы вульлёк на ножках на 8 поўрамак, раздзеляных тонкімі адгароднымі дошкамі на чатыры гняздры так, што ў кожнае гняздо уходзіць дзьве поўрамкі і, ці то з канца, ці з боку, маюць маленькую лётку. Летам матка часта чэрыць і ў магазыне (надстаўцы), я выймаю зачэрaную поўрамку з пчоламі, што на ей сядзяць, стаўлю ў гэты малы вульлёк, страсаю пчол яшчэ з некалькіх рамак, даю вады і закрываю. А як пры рабоце трапляецца на вока матка, стаўлю яе з рамкай за адгародную дошку, а праз 24 г. бяру гэтых пчол сірот у гэныя малыя вуляйкі — яны ня так варочаюцца да старыка. Матку варочаю назад, а вясьняным уляйком даю матачнікі, маткі якіх па спатканьні з трутнямі, даю, дзе трэба, а яны ізноў выводзяць сабе матку. На зіму, калі матка застанецца, лёгка злучаюцца ўсе чатыры ў адну, ці ў дзьве сям'і, даецца запас мёду, трапляюцца поўрамкі нават і з хлябцом (пылком) і астаўляюцца запаснымі на вясну.

*П. Прадуха*

*м. Гарадок.*

М. ЯКІМЕЦ.

# Хваробы і ворагі пчолаў.

(працяг).

## Нозэма

Найчасьцей спатыканай і найстрашнейшай хваробаю дарослых пчолаў зьяўляецца нозэма. Часопісі падаюць, што заражаных пчальнікоў гэтай хваробаю ёсьць у Нямеччыне 80%, Чэхаславацыі 40—80%, Фінляндыі 51%, Швэцыі 53%. А швайцарскія вучоныя дапушчаюць, што няма пчальніка, на якім не было-б нозэмы, толькі не заўсёды яна пашыраецца, дзеля не карысных для яе разьвіцьця абставін.

Выклікае гэтую хваробу аднаклетнае стварэньне Nosema apis, выкрытае вучоным Lander'am у 1909 годзе. Nosema apis размнажаецца і пашыраецца пры дапамозе спораў. Заражэньне нозэмаю можа адбывацца толькі пры помачы спораў, якія дастаюцца ў страватраўчы праход пчалы з ежаю. Дастаўшыся ў адпаведныя для свайго разьвіцьця абставіны, гэта значыць у праўдзівы жалудак пчалы, са споры паўстае маленячкае аднаклетнае стварэньне званае амэбай, якое залазіць у клеткі праўдзівага жалудка і пачынае вельмі хутка размнажацца. Так, што ў працягу кароткага часу ўвесь жалудак выпаўняецца спорамі, якія з адходамі выходзяць на двор. Жалудак, дзякуючы таму расшыраецца і мае колер бела-шэры.

Хворая на нозэму пчала робіцца вельмі неспакойнай і адчувае страшэнную смагу і голад, а гэта дзеля таго, што зьнішчаныя заразкамі клеткі жалудка немогуць прысвойваць спажыванай ежы. Пасьля трацiць здольнасьць лёту і робіцца „пешай“. Калі такая пчала прабуе вылятаць, яна падае на зямлю перад вульлём і бегае па зямлі. Пры вельмі пашыранай хваробе гэтакіх пешых пчолаў бывае шмат, і яны зьбіраюцца каля вульля ў горбачкі, дзе і гінуць. Памершыя пчолы маюць вельмі раздутыя жывоцікі і моцна падкорчаныя ножкі.

У зімку хворыя на нозэму пчолы страшэнна занечышчаюць адходамі вульлей і гняздо. У летку і вясною, калі пчолы лётаюць, гэтага ня бывае. Хварэюць на гэтую хваробу толькі пчолы старыя.

Сям'я хворая нозэмаю хутка слабее толькі тады, калі ў вульлі з якіх небудзь прычын няма шмат чарвы. Тады больш паміраe старых пчолаў, чым родзіцца маладых. Пераважна хвароба выбухае вясною пад восень зьменшаецца, з тым каб вясной зноў пачацца з большай сілай. Хворыя сем'і паміма захадаў і найлепшага догляду ня прыходзяць да належнае сілы на час галоўнага пажытку і карысьць з іх бывае зусім малая.

Калі мы заўважым, што ў вульлі ёсьць шмат чарвы, а сям'я аднак ніяк не даходзіць да сілы, дык трэба падазраваць нозэму. Сем'і хворыя на нозэму, заражаныя якою-небудзь хваробаю чарвы, гінуць вельмі хутка.

Калі маем падазрэньне нозэмы, трэба прааналізаваць жалудак пчалы. Нармальна жалудак бывае жоўта-бранзовы. У хворай на нозэму — шэра-белы. Адходы бываюць ясна-жоўтыя вадзяністыя, маючыя пах квасу. Высахшыя пахнуць тытунём. Калі трошкі высахшых адходаў хворых пчолаў на нозэму разатрэм у вадзе, дык атрымаем раствор малочна-белы. Можна гэта зрабіць яшчэ так: на чыстае шкло даем адну каплю вады і кладзём наступна жалудак

прыпушчальна хворай пчалы і другім шклом націскаем так, каб жалудак лопнуў, тады атрымаем, калі ёсьць нозэма, плямку падобную да зьмешанага малака з вадою. Зусім пэўнае распазнаньне можна паставіць толькі пры помачы мікраскопу.

Хворыя пчолы для мікраскапавага і дакладнага досьледу можна высылаць у „Wydział Higjeny Państwowej, Naukowego Instytutu Rolniczego w Bydgoszczy“ або да „Docentury Pszczelnictwa Politechniki Lwowskiej we Lwowie ul. Ujejskiego 1.“ Пры гэтым трэба выпаўніць такія фармальнасьці: падаць імя і прозьвішча, ваяводзтва, павет, воласьць і вёску, найбліжэйшую пошту і найбліжэйшую чыгункавую станцыю і колькі да яе кілямэтраў, колькі ёсьць вульлёў разьбіраных і неразьбіраных і на кольких рамках выступае хвароба. Далучыць дзьве паштовыя маркі на адказ. Хворыя пчолы, або кусочкі чарвы павінны быць запакаваныя ў чыстых, найлепш шкляных слоіках так, каб у дарозе ня зьнішчыліся.

Хвароба ў вульлі пашыраецца праз спажываньне мёду заражанага спорамі Nosema apis. З вульля ў вульлей пераносяць заразу пчолы-зладзейкі, трутні, некаторыя шкоднікі і пчаляр праз заражаныя рамкі, прылады і г. д. Не выключана, што заразіцца пчала можа на траве і кветцы, забруджанай адходамі хворай на нозэму пчалы. Часта бывае, што заражаюцца пчолы вясною на вадапоі, бо хворыя пчолы, траўленыя смагай, лятуць туды і гінуць заражаючы ваду мноствам спораў. Дзеля гэтага трэба вадапоі рабіць адумысныя, каб вада там была не стаячая і каб туды не маглі падаць пчолы.

Лячэньне нозэмы хімічнымі сродкамі не дало рэзультатаў. Хаця прапанаваны доктарам Гумэнюкаю trypaflavin паводле яго падаваны ў сыропе радыкальна запабягае нозэме і лечыць ужо хворыя пчолы.

Лячэньне спосабам Lander'а па-

---

## „Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду“.

*(Рэфэрат прачытаны 3/III 1935 г. на вечары прапаганды мёду).*

(Гл. № 1-2 1936 г.).

6. Вітаміны F—вядзе да няплоднасьці.

7. Вітаміны P—паводле Функа вядзе да хваробы званай па польску „rumień lombardzki“.

Усіх гэтых хваробаў ня будзе тады, калі мы будзем спажываць мёд, які мае ўсе гатункі вітамінаў і іншыя стравы, як масла, малако, яблыка памідоры, памаранчы, моркву і г. д.

Трэба тут падчыркнуць, што ўсе вышэй пералічаныя прадукты маюць перевяжна па адным гатунку вітамінаў тады, калі мёд мае іх усе.

Док. Е. Кінг праф. унівэрсытету у Ілліноіс у Злучаных Штатах так кажа пра мёд: „Маючы шмат вітамінаў, мінэральных соляў, інвэртазы і мураўлінага квасу, мёд вельмі лёгка вытварае новыя клубікі крыві і дае — ім гэмаглёбіны, узмацняе арганізм і робіць яго адпорным на розныя шкодныя ўплывы. Прафэсар Кракаўскага ўнівэрсытету Клецкі ў сваім падручніку „Паталёгія агульная“ паміж іншымі сьродкамі лячэньня хваробаў, выкліканых недахопамі вітамінаў, вылічае мёд.

III. Мёд гэта ежа здаровая. Зда-

лягае на зьнішчэні старых лётных пчолаў. Робіцца гэта так: хворы вульлей адстаўляецца на бок, а на яго мейсца ставіцца вульлей пусты такога самага выгляду з прыладай у лётцы, каб пчолы маглі ўлазіць у вульлей, а вылятаць назад не маглі. Гэтак сабраныя ў вульлі пчолы вечарам сяркуюцца.

Трэба тут зацеміць, што лячэньне ноээмы вымагае шмат клопату і часу, а карысьць бывае часамі вельмі малая. Дзеля гэтага, трэба ўсімі сіламі імкнуцца да таго, каб нозэма не знайшлася на нашым пчальніку.

Дзеля гэтага трэба:

1. Зімаваць сем'і толькі сільныя з маладымі маткамі на добрым запасе мёду, у цёплых, з добрай вэнталяцыяй вульлях.
2. Змагацца ўсялякімі спосабамі са зладзействам (нападам) і каб пчолы ня блудзілі.
3. Зрабіць адумысны вадапой, каб пчолы ня бралі вады з стаячае лужыны.
4. Не шкадаваць аднэй, а нават дзьвёх сем'яў, заражаных нозэмаю і зьнішчыць, каб ня даць магчымасьці пашырацца заразе.
5. Пасьля агляду хворага вульля, трэба дэзынфэкаваць свае прылады, рукі і вопратку.
6. Рамкі і вульлей пасьля хворае сям'і трэба дэзынфэкаваць, як пры гвільцы.

(працяг будзе)



ровою ежаю называем такую, якая лёгка травіцца і прысвойваецца арганізмам, бо стравы непажыўныя і цяжка страўныя ня толькі не даюць сілы арганізму, але абцяжываюцъ яго надмернаю працаю і пакідаюць шкодныя часткі, якія яго атручваюць. Мёд страва здаровая, бо наш арганізм ня грызучы і ня травячы можа яго прысвойваць і гэтым не абцяжвае нашага жывата, але нават дапамагае яму ў траўленьні іншых страваў. Дзеецца гэта дзякуючы фэрмэнтам (энзымам), якія маюць здольнасьць, хоць у вельмі малой колькасьці, рабіць у стравах вельмі вялікія хэмічныя зьмены. Дастаюцца энзымы ў мёд з залёз пчалы ў часе прабываньня яго ў яе жываце.

Прафэсар Зарын знайшоў у мёдзе энзымы: дзіастазу, інвэртазу, каталязу, пэжыну і іншыя.

Яшчэ дапамагаюць траўленьню іншых страваў эфіравыя алейкі, каторыя знаходзяцца ў мёдзе, бо пабуджаюць да сільнейшай функцыі ворганы траўленьня і прысьпяшаюць рухлівасьць, ці як яе называюць, пэрыстальтыку кішак.

IV. Мёд—страва чыстая, — таму што ў добрага пчаляра да яго не дастаецца зусім бруд, а нават не заўсёды чыстая людзкая рука. Яшчэ да чыстасьці мёду прычыняецца тое, што ўсе бактэрыі і заразкі, якія дастаюцца ў яго хутка забіваюцца малочным і мурашкавым квасамі, якія знаходзяцца ў мёдзе.

(Далей будзе).

Л. ВОЙЦІКАВА

# Мёдадайныя расьліны.

Важна ня толькі пазнаць медадайныя расьліны тыя, якія мы павінны распаўсюджываць сеючы іх па полі, у гародзе на няўжытках і г. д., важна таксама пазнаваць расьліны дзікія, у большай ці меньшай колькасьці раскіданыя па нашых палёх, балотах і лясох, бо яны найчасьцей даюць галоўны пажытак нашым пчолам і да іх трэба дастасоўвывацца, кіруючы сваей пчалярскай гаспадаркай.

Але дзеля таго, што цяпер ужо падыходзіць пара сяўбы а пчаляр-земляроб **павінен абавязкава цесна злучыць патрэбы ўсіх галін сваей гаспадаркі**, і сеючы для сябе і жывёлы, помніць аб пчолах і наадварот, насамперад пагаворым аб расьлінах кармова і прамыслова-медайных.

## Гарчыца белая.

(Sinapis alba).

Гэта расьліна аднагадовая медадайна—кармова-лекарска-прамысловая.

З выгляду падобная да нашай дзікай сьвірэпы.

Паходзіць гарчыца белая з паўднёвай Эўропы,але сягодня сеюць яе ў меньшай ці большай колькасьці ўсе цывілізаваныя народы ў умеркаванай паласе.

Што да глебы то гарчыца мае малыя вымаганьні, але патрабуе зямлі чыстай і гнойнай, найлепш удаецца пасьля бульбы.

Гадуючы на насеньне сеюць яе сеўнікам радкамі 35—45 цм. адзін ад аднаго і тым радчэй, чым зямля лепшая. На 1 гэктар трэба 25—30 кілягр. насеньня.

Гарчыца прымаразкаў не баіцца дзеля гэтага сеяць яе можна якнайраней, тым больш, што рана сеяная меньш церпіць ад земляной блошкі.

Усходзіць гарчыца хутка: пасьля 7—10 дзён радкі ўжо добра адзначаюцца Дарастае да 50 цм., а на багатай зямлі нават да мэтра, Цьвіце ўжо ў 6 тыдняў пасьля пасеву. Сьпее не адначасна, дзеля гэтага трэба яе жаць, як толькі стручкі пажаўцеюць, бо інакш насеньне высыпеца. Жаць трэба з расой і вазіць з поля ў посьцілках.

Адзін гэктар дае 600—700 кіл. насеньня.

Гарчычнае быльлё можа быць ужытае на падсьціл, або спаленае і рассеянае дасьць патасовае ўгнаеньне.

— Цяпер разгледзім якія яна дае карысьці:

**Медадай**: Гарчыца белая дае пчолам шмат мёду і пяргі. Мёд мае цытрынова-жоўты коляр. Мядуе ў кожную пагоду. Пасеяная ў восені, у жніўні дае поўны пажытак; хаця ў халодныя дні можа не медаваць, затое дае масу пяргі, тым пчолам, якія не пасьпелі сабраць яе летам, або гадуюць позную чарву. Гарчыцу можна сеяць, як грэчку ад вясны да жніўня і такім чынам запэўніць сабе бязперарыўны пажытак.

**Як расьліна кармовая** гарчыца бывае гадаваная, як другі збор, бо расьце вельмі хутка і дае шмат добрага зялёнага пошару, які жывёла есьць ахвотна; добры корм для малочных кароў. Ужываюць яе таксама, як расьліну абаронную пры гадоўлі чыстай сэрадэлі. Сэрадэля расьце вельмі памалу і заўсёды апаноўвывае яе і заглушае пустазельле.

Калі пасеяць сэрадэлю з гарчыцай, то апошняя хутка вырастаючы бароніць сэрадэлю ад пустазельля. Гарчыца, скошаная перад красаваньнем, або ў пачатку яго, дае шмат добрай пашы, а адкрытая сэ-

радэля хутка пачынае расьці і дае багаты збор.

**Як лекарская расьліна** белая гарчыца ці лепш кажучы яе насеньне пад назовам Semen Sinapis albae ў некаторых краёх мае даволі вялікае застасаваньне, як лекарства пры хваробах жывата.

Як прадукт да лекарскага ўжытку, насеньне гарчыцы мусіць быць чыста высеянае і адсартаванае ад нясьпелых паморшчаных і зелянаватых зярнят.

Дасушаныя на сонцы або ў лёгкай печцы пераховываюцца ў мяшках у сухім правеўным мейсцы на падложаных жардзінах, або яшчэ лепш разсыпаныя нягрубым пластам у правеўных сьвірнах.

**Як расьліна прымысловая** гарчыца маючы ў сваім насеньні каля 36% алею, дае тлусты **алей гарчычны** (Oleum Sinapis expressum), каторы сваім смакам прыпамінае „правансальскую" аліву.

З меленага насеньня прыгатаўляюць т. зв. гарчыцу (муштарду), якую ўжываюць як прыправы да мяса.

Цэлых зярнят гарчыцы ўжываюць пры кансэрваваньні мяса, рыбы, пры саленьні агуркоў (кладуць цэлыя нясьпелыя стручкі) пры марынаваньні селядцоў і г. д.

— Як бачым белая гарчыца дае розныя ўсестароньнія карысьці і павінна быць уведзенай паміж гадаванымі ў нас расьлінамі.

## Асот мядовы, фацэлія і асацец.

Пчалярская прэса ўсяго сьвету ў сучасны мамэнт горача займаецца пытаньнем павялічэньня пажыткаў для пчол.

Шмат дзе садзяць людзі сотні і тысячы мёдадайных дрэваў, сеюць гэктарамі летнія мёдадаі, у нас, нажаль да гэтага яшчэ далёка Хоць ужо сягодня праектуецца абсяваньне і абсаджываньне адпаведнымі мёдадаямі чугуначных насыпаў, прыватныя адзінкі мала аб гэтай справе думаюць, а яшчэ меньш робяць.

Тымчасам усе пчаляры павінны помніць, што: *не дэнатураваны цукар нам паможа, а толькі павялічэньне плошчы адпаведных медадаяў!*

На гэтым мейсцы пагаворым аб трох амаль не знаных у нас расьлінах, якія апрача надзвычайнай медадайнасьці маюць яшчэ іншыя ўжытковыя ўласьцівасьці.

**Асот мядовы** або *дзед* (Echinops sphaerrocephalus, польс. Przegorzan kulisty, укр. Крутай головатый).

Гэта расьліна, 2 гадовая г. зн. што ў першым годзе разьвіваецца толькі лісьцё, а ў 2-м расьце сьцябло і разьвіваюцца кветкі. Лёгка сам разсеіваецца.

Сабранае ў восені насеньне, трэба заразжа высеяць, бо да вясны вельмі траціць сілу прарастаньня.

Дарастае яна на добрай зямлі да 2 мэтраў вышыні, (на чарназёме да 4 мэтраў); Кветкі шэраватабелыя сабраныя ў вялікія круглыя галоўкі, якіх на расьліне вельмі многа. Галоўкі расьцьвітаюць адна пасьля другой і дзеля гэтага даюць пчолам пажытак амаль не ў працягу цэлага месяца. Пры гэтым трэба заўважыць, што асот мядовы цьвіце ў ліпні і жніўні і выдзеляе нэктар у кожную пагоду ад раніцы да вечара.

З гэтага відаць, што мядовы асот—мёдадай першага гатунку.

Але, якія-ж ён больш можа прынясьці карысьці ў гаспадарцы.

Пчаляры, якія сеялі ў сябе г. асот у большай колькасьці стараліся выкарыстаць лісьцё, якое ў першым годзе вырастае вельмі вялікае сочнае і мала калючае.

Адзін з іх пад канец лета лісь-

цё асоту касіў, рэзаў на сечку, спырсківаў вадой і пасыпаўшы крыху вотрубямі даваў сьвіньням. Сьвіньні (і гусі) елі яго вельмі ахвотна і добра расьлі ад гэтай пашы.

Другі пчаляр даваў лісьцё мядовага асоту карове, прычым аказалася, што карова збольшыла значна % туку ў малаку. У той час, як пробкі малака ад іншых кароў мелі туку 2,8%, а найбольш 3,5%, пробка ад каровы, якая ела асот, мела яго 4,5%.*

Гэтыя досьледы гавораць, што расьліна ў першым годзе можа быць выкарыстана, як добрая багатая паша.

Насеньне мядовага асоту выглядам і вялічынёй нагадывае жытэ. Мае яно ў сабе вялікі % алею, які паводле досьледаў лябаратарыйных надаецца зусім да ўжытку.

Ачышчанае насеньне вельмі ахвотна ядуць куры з вялікай для сябе карысьцю, асабліва падчас выперываньня, калі курыны арганізм патрабуе тлустой і сытнай ежы.

**Фацэлія** (Phacelia tanacetifolia польс. Wiązanka wrotyczowa).

Гэта расьліна аднагадовая, паходзіць з Каліфорніі (Амэрыка), а дзякуючы сваім вялікім мёдадайным уласьціваасьцям гадуецца масава ў краёх з высокай пчалярскай культурай. Так напр. у Чэхаславацыі, у 1934 годзе было высеяна фацэліі 13,328 кіляграм.

Фацэлія на добрай, чыстай зямлі, рэдка пасеяная, расьце вельмі буйна, (адзін яе куст можа заняць да $1/2$ мэтра) і дае масу кветак. У чэскай брашуры „Swazenka„ (што значыць фацэлія) чытаем, што на 8-мі галінках аднаго куста фацэліі было налічана 28,600 кветак, іншая расьліна мела іх 34,815. Далей чытаем, што на адным квадратным мэтры абсеяным фацэліяй ад гадзіны 10 рана да 11 было налічана больш 1000 пчол.

Мядуе фацэлія вельмі добра ў кожную пагоду, мёд дае высокай якасьці надта добры для зімаваньня пчол.

Дзеля таго, што фацэлія пачынае цьвісьці ў 6 тыдняў пасьля пасеву і цьвіце каля 3 тыдняў, то высяваючы яе ў 2 тыднёвых водступах можам запэўніць пчолам пажытак на цэлы сэзон. Каб мець яе ўжо рана вясной высейваем насеньне ў позную восень.

Кожны пчаляр, які ведае (калі ў яго ваколіцы наступае перарыў у мёдазборы) можа запэўніць гэты перарыў пасеяўшы ў адпаведным часе фацэлію.

— Як расьліна кармовая фацэлія вялікага значэньня ня мае хіба толькі, як зялёная паша ў сумясі з іншымі.

Мякіна з фацэліі вельмі добрая на зімовы корм курам. Дадаецца да мешанак.

**Асацец грэцкі** Echium creticum польс. Żmijowiec grecki, укр. Сіняк аднорыный).

Аднагадовая расьліна вельмі падобная да нашага дзікага 2 гадовага асацьцу, толькі шмат буйнейшая. Паходзіць з Грэцыі. Пасеяны вясной пасьля 7-мі дзён усходзіць, пасьля 3 тыдняў зацьвітае і цьвіце аж да маразоў. Мядуе надзвычайна добра ў кожную пагоду, пчолы адведываюць яго нават падчас невялікага дажджу.

Раз пасеяны не патрабуе адсеяваньня, даволі вясной матыкай зварушыць зямлю, ды выпалоць чыста пустазельле, а таксама перарваць за густа вырасшыя расьлінкі. Вельмі добра даецца перасаджываць. Рэдка пасаджаны разрастаецца вялікімі кустамі.

Лісьцё яго можна ўжыткаваць, як корм для жывёлы, сьвіньней ды гусей, а мякіна дадаваная зімой да курыных мяшанак пабольшывае нясучасьць.

* Дадзеныя гэтыя ўзяты з Укр. Пасічніка г. 1935 № 9.

# А дзе нашыя пчолы?

Штодзенная і фаховая прэса падае, што ўвоз у Польшчу з заграніцы мёду і воску штогод павялічываецца. У 1932 годзе прывезена мёду 65200 кгр., у 1933 г. — 88,100 кгр., а ў 1933 г. – 88,350 кгр. Воску прывезена ў 1932 г. 2,300 кгр., а ў 1933 г. — 4,600 кгр. З гэтага відаць, што ня гледзячы на вялікае мыта і кошты перавозкі, шмат каму аплачываецца прадаваць мёд у Польшчу.

Гэтая невялічкая зацемка павінна змусіць нашых пчаляроў задумацца. Мёд і воск, як відаць, зьяўляюцца таварам, на які ёсьць запатрабаваньне і прадаваць які аплаціцца ня толькі ў краі, але і вывазіць заграніцу.

Заходняя Беларусь, якая спаконвеку зьяўлялася краінаю, якая ў аграмадных колькасьцях прадавала заграніцу свой мёд і воск, зараз, як відаць, не задавальняе нават запатрабаваньняў унутранага рынку.

Што-ж зьяўляецца прычынаю гэтага сумнага факту.

Перадусім трэба прызнацца, што гэтая галіна гаспадаркі ў нас зусім занядбаная. Мала хто займаецца пчоламі, мала хто аб іх думае. Нават тыя, што і водзяць пчолаў, робяць гэта няўдала і не фахова і ня могуць паставіць свае пчаліныя гаспадаркі на такую вышыню, каб мець з іх карысьць. Нашыя пчаляры зьяўляюцца галоўным чынам пчалярамі - аматарамі і водзяць пчолаў дзеля таго, што іх любяць.

Далей не зьвяртаецца ў нас належнае ўвагі на медадайныя расьліны і дрэвы, без чаго ня можа быць і мёду.

Трэцьцяй прычынай зьяўляецца нашая неарганізаванасьць, а дзеля гэтага бязладнасьць у прадажы прадуктаў пчалярства – мёду і воску.

Гэты ненармальны стан рэчаў бязумоўна трэба зьмяніць.

Калі другім аплачываецца прывазіць да нас мёд і воск і пры гэтым плаціць вялікае мыта, дык чаму-ж ня будзе гэта карысным нам. Трэба толькі падыйсьці да пчалярства сур'ёзна і фахова. Дзеля гэтага-ж трэба вучыцца пчалярства, паглыбляць і пашыраць сваю веду, чытаючы фаховыя кніжкі, часапісы, карыстаючыся з парадаў спэцыялістаў і г. д.

Калі пчаляр у якім небудзь глухім кутку маючы 2—3 вульлі пчолаў ня можа знайсьці добраго купца на свой мёд, а вязьці яго ў горад далёка, дык пчаляры ўсей ваколіцы злучыўшыся разам могуць мець такую колькасьць мёду, што ўжо аплоціцца завязьці яго ў горад і з прадажай яго ня будзе вялікага клопату. Дзеля гэтага трэба аб'еднывацца на мяйсцох і гуртавацца каля існуючай ужо сваей пчалярской цэнтралі, каля Беларускага Коопэратыўнага Т-ва „Пчала" (Вільня, Каралеўская вул. 3-8). Т-ва „Пчала", аб'яднаўшы вялікшую колькасьць прадукцыі нашага пчалярства, будзе мець магчымасьць выступіць на рынку, як паважны дзейнік, што дадатна адаб'ецца на ўсей справе гандлю мёдам і воскам, а перадусім на справе цэн.

У сучасных варунках, калі з усіх бакоў і на кожным шагу прыходзіцца чуць гутаркі аб патрэбе паднясеньня даходнасьці земляробскае гаспадаркі, ня трэба забывацца і пчалярства, якое для шмат каго з земляробаў, а асаблва для малазямельнага селяніна, можа зьявіцца паважнай крыніцай даходу.

*М. М.*

# Ці аплачваецца даваць штучныя гнаі.

Надыходзіць час вясеньняй сяўбы. У гэтым годзе, „дзяржаўнай апекай над Крэсамі“ прадаюцца спэцыяльна таней для нас штучныя гнаі.

Цана іх абніжана на 25% у параўнаньні з папярэднімі гадамі. Вось-жа мы, у гэтай кароткай заметцы хочам падаць чытачу - селяніну, ці яму аплаціцца купіць штучны гной ці не.

За падставу сваіх аблічэньняў мы бярэм вынікі земляробнай дасьледчай станцыі ў Бэняконях, лідзкага павету. Зямлю яна мае лёгкую—бо знаходзіцца на далейшым працягу ашмянскага ўзвышша—даволі пяшчанага. Ячмень, аблічэньні з якім падаём за тры гады, 2 разы—у 1928 годзе і 1929 годзе—сеяўся на вельмі благой, беднай зямлі. Каб лягчэй было чытачу зразумець нашыя аблічэньні — падаем таблічку, якая наглядна паказвае, што зроблена і што атрымана.

**ЯЧМЕНЬ**

| Угнаеньне | 1928 год<br>Ураджай з гэктара ў квінталях | | 1929 год<br>Ураджай з гэктара ў квінталях | | 1934 год<br>Ураджай з гэнтара ў квінталях | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | зярна | саломы | зярна | саломы | зярна | саломы |
| O | 7.6 | 9.6 | 10.6 | 16.0 | 25.3 | 31.3 |
| NPK | 16.8 | 15.4 | 21.0 | 28.4 | 27.0 | 46.6 |

O у табліцы азначае, што на гэты кавалак даваўся толькі хлеўны гной. NPK: N-азот, P—фосфар, K—калій (па польску потас). Штучныя гнаі даваліся ў дадатак да хлеўнага гною, каб пераканацца — як яны дзеюць. З паданай табліцы бачым, што ўраджай за 1928 год на хлеўным гнаі быў—7, 6 квінталяў зярна, 9,6 квінталяў саломы. Калі да гною дадалі яшчэ 156 кг. салетры, 277 кг. тамасоўкі і 166 кг. каліевай солі — ураджай падняўся да 16,8 квінталяў зярна і 15,4 квінталяў саломы. Надвышка на штучныя гнаі прыпадае: 9,2 квінт. зярна і 5,8 квінтал. саломы. Калі мы возьмем сяньняшнія цэны ячменю і саломы, то за надвышку ўраджаю атрымаем: 92,80 зл., лічачы па 9 зл. квінталь ячменю і па 1,80 зл. квін. ячменнай саломы.

За гнаі заплачана 92.80 зл. — 88.60 зл.=4.203 зл. Такія-ж самыя аблічэньні для 1929 году даюць надвышку на гнаёх—10.4 квінтал. зерня і 12,4 квінт. саломы. Высеяна гнаёў: 277 кг. тамасоўкі, 166 кг. каліевай солі, 119 кг. азатняку. За прадажу надвышак ураджаю атрымаем 115 зл. 90 гр. За штучныя гнаі заплачана — 79,90 зл. Даход—115 зл. 90 гр. адняць 79 зл. 90 гр.—атрымаем —36 зл.

У 1934 годзе ячмень сеяўся на лепшай зямлі. Хаця гнаёў было даволі шмат—190 кг. супэрфасфату, 300 кг. каініту, 219 кг. азатняку, надвышка ураджаю атрымалася малая: 1,7 квінт. зярна і 15,3 квінт. саломы. На такой калькуляцыі гаспадар шмат траціць. За гнаі плаціць 85,20 зл.—з прадажы надвышак ураджаю атрымлівае 42 зл. 10 гр. Страта 43 зл. 10 грошаў. Да гэтага трэба дадаць, што поле

*) квінталь—100 кілё, шэсьць пудаў.

на станцыі, дзе праводзіліся досьледы, утрымліваецца ў высокай культуры. Там ужо нішто не перашкаджае ўзросту—ані пырнік, ані іншае пустазельле. Гэтае апошняе адносіцца таксама і да пшаніцы. У нас, дзе ральля ня можа пахваліцца чысьцінёй — мы такіх вынікаў не атрымаем, а значыць і гной ня можа даць нам спадзяванага ўраджаю. Высокі ўраджай ячменю можна атрымаць і на хлеўным гнаі, калі толькі поле будзе добра ўгноенае і добра выробленае, пазбаўленае пустазельля. Там-жа, дзе гаспадар дае мала гною, дзе ральля выпуставана, аплаціца прыкупіць пару квінталяў гнаёў. Азот часьцей і гусьцей вывозіцца з хлеўным гноем, але ён, калі яго няма ў зямлі, дае сябе пачуць пры умалоце—зярно малое і ня шмат.

## ПШАНІЦА

| Угнаеньне | 1930 год — Ураджай з гэктара ў квінталях | | 1931 — Ураджай з гэктара ў квінталях | |
|---|---|---|---|---|
| | зярна | саломы | зярна | саломы |
| O | 8.2 | 13.6 | 14.8 | 24.8 |
| NPK | 17.0 | 24.0 | 22.2 | 39.4 |

З яравой пшаніцай паўтараецца тое самое, што і з ячменем. У 1930 годзе на палетку з хлеўным гноем было 8.2 квінт. зярна і 13.6 квін. саломы. Калі дадаць да гэтаго тамасоўкі 277 кл. і 166 каліевай солі, 143 кл. азатняку — надвыжка атрымалася такая: 8.8 квінт. зярна і 10, 8 квінт. саломы. З прадажы надвышкі ўраджаю: зярна 132 злотых, саломы 19 зл. 40 гр. разам 151 зл і 40 гр. Выдатак на гнаі 85 злот., Даход: 151, 40—85=66 зл. 40 гр.

Тое самае бачым ў 1931 годзе. Надвышка на штучных гнаёх раўняецца: 7,4 квінталяў зярна і 14,6 квінталяў саломы. Гнаёў дана на суму 80 зл. 25 гр. За ураджай — 137,20 зл. Даход: 137,20 зл. — 80,25 зл. = 56,95 зл. За квінталь пшаніцы лічыцца тут 15 зл за квін. саломы пшанічнай 1.80 зл.

Гледзячы на рубрыкі з ячменем у 1934 годзе і пшаніцай 1931 г. бачым, што былі даволі высокія ўраджаі гэтых расьлін на хлеўным гнаі. У той час, калі сярэдні ўраджай пшаніцы і ячменю хістаецца ў нас паміж 7—11 квінталямі—Тут атрымана 25,3 квінт. ячменю і 14.8 квінт. пшаніцы з гэктара. Ураджаі, як на нашыя ўмовы, даволі вялікія. Можна і нам іх атрымаць, але да гэтага патрэбны: І, поле ў кавалку, ня ў шнурох, ІІ, каб ня было застояў вады ў ральлі.

Рэазумуючы ўсё вышэй сказанае, робім аканчальныя вывады:

І, гатовых рэцэптаў ў тасаваньні штучных гнаёў няма. Дзеля таго, што яны аднака-ж на сяньняшнія часы дарагія, трэба добра арыентавацца, як паступіць. ІІ. Той гаспадар, які добра гноіць поле, з штучных гнаёў вялікае карысьці мець ня будзе. Але акурат, такі гаспадар можа іх з трудом купіць. ІІІ. Штучныя гнаі памогуць там, дзе гной хлеўны даецца рэдка і мала. Ураджаі значна падвысяцца. Але той, хто мае мала гною, мала мае скаціны; мала мае скаціны—з чаго ён будзе мець грошы, каб купіць гной? Кожны на аснове сказанага ў гэтым артыкуле хай выбірае—ці яму даваць штучныя гнаі пад ячмень і пшаніцу яравую, ці не.

П. З.

# Зелярства

## Танныя і практычныя сушні.

Маючы намер выкарыстаць розныякія багацьці сваей ваколіцы: грыбы, лекарскія зёлкі ды ўселякія ягады, бязумоўна першым пытаньнем, якое паўстане ў нашай думцы будзе: дзе сушыць? Некаторыя рэчы, як грыбы ды ягады найлепш сушыць на сонцы; на сонцы гэтак сама добра сушыць яблыкі, грушы і лекарскае карэньне. Іншыя часткі лекарскіх расьлін, як кветкі ды лісьцё трэба сушыць у мейсцы праверным, але зацененым, бо на сонцы страцілі-б свой прыродны коляр,




Сушня на пліце. № 3. Разрэз шушні на пліце.

а значыцца і гандлёвую вартасьць. Для сушэньня на сонцы ці ў цяньку трэба мець адпаведныя, загадзя прыгатаваныя прылады. У адным з леташніх нумароў украінскай часапісі „Сільскій господар“ інж. О. N. падае вельмі добрую, хоць зусім прымітыўную прыладу дзеля сушэньня на сонцы; якую робяць такім спосабам, што ўбіваюць у зямлю чатыры калкі, на якія нацягіваюць палотнішчы сшытыя са старых чыстых мяшкоў. (гл. рысунак № 1).

Дзеля сушэньня лекарскіх расьлін гэтакую самую сушню робіцца пад паветкай, або на падстрэшшы г. зн. там, дзе ня мае доступу сонца.

— На жаль у нашай старонцы зусім мала маем гарачых сонячных дзён і дзеля гэтага часта мусім застасоўваць штучнае сушэньне, г. зн. у сушні аграванай агнём.

— У гэтакіх сушнях вельмі добра сохнуць ягады, грыбы, яблыкі, грушы, а таксама лекарскае карэньне, якія зьбіраныя ў восені і вясной, рэдка могуць быць высушаныя на сонцы.

— Будова сумыснай сушні каштуе даволі грошы і клопату, але можна вельмі добра выкарыстаць печку, а таксама пліту, дастасаваўшы да іх адпаведныя прылады. Гэтакія прымітыўныя сушні бачым у вышэй успомненым нумары „Сільского Господара“.



№ 1. Сушня на тычках.

**Першая сушня:** (гл. рысун. № 2) прыстасаваная да печы. Насамперад робім рамы і нацягіваем на іх рэдкае палатно, або мяшкі. Пад першую раму падкладаем пад чатыры рагі па цэгліне і на іх ставім раму; Далей ставім рамы адну на другую паклаўшы паміж кожныя дзьве рамы па рагох калодкі грубіні 5—8 цм. Такім чынам паветра будзе свабодна перахадзіць паміж рамамі. Засланку ставіцца так, каб зьнізу была шчэлка праз якую магло-б уваходзіць халоднае паветра, а з верху гэтакая-же шчэлка дзеля выхаду пары. Найлепш сушыць пасьля хлеба, але можна гэтак сама перапаліць печку сумысьля; толькі ня трэба моцна паліць, бо гэта дрэнна адбіваецца на выглядзе і вартасьці прадукту.



№ 2. Сушня ў печы.

**Другая сушня** (рыс № 3) дастасаваная да пліты. Складаецца яна са скрынкі адпаведнай вялічыні, бяз дна ў скрынцы прыбіваем ліштвы) ў адлегласьці 8—12 цм. адна ад другой, на якія пасьля ўстаўляюцца рамы так, як шуфляды ў стале. Шырыня рамы павінна быць меньшай, чым шырыня скрыні прынамсі на 5—6 цм. Тады ўстаўляючы рамы адну адсоўваем у права, другую ў лева, 3-ю ізноў у права і г. д. Паветра, маючы праход каля кожнай рамкі, будзе лепш і хутчэй высушываць прадукт. Ліштвы прыбіваем на ўсіх 4-х сьценках рамы свабодна перасоўваем ува ўсе бакі. Верх скрынкі выводзім у канцы, а ў нізе робім вырэзы дзеля праходу халоднага паветра.

Стаўляючы такую сушню на пліту, кладзём насамперад на ўсю паверхню цэглы, якія раўнамерна награючыся, добра перадаюць цяпло. Падчас сушэньня ці то ў першай, ці ў другой сушні трэба прадукт на сітах (рамах) перамешываць і рамы перастаўляць так, каб тыя, што былі знізу, знайшліся на версе і нгадварот, а сухі тавар у пару выймаць з сушні.

*Л. В.*

# ШАЎКАЎНІЦТВА

**МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.**

## — Морва белая і яе гадоўля. —

(Працяг з 1-2 № 1936 г.).

### Вымаганьні морвы што да глебы.

Морва белая ня вымагае багатай зямлі, расьце амаль што не на кожным грунце; аднак-жа найлепш удаецца ў грунтах цёплых, лёгкіх, пяшчана-глiністых, горш ужо на цяжкой або за шмат вапністай зямлі, а зусім дрэнна на халоднай, і падмокшай. Прычым морва росшая на падмокшай глебе дае лісьцё вельмі вадзяністае, гэтым самым нягодняе, як корм вусеніцам.

### Адмены белай морвы.

Існуе больш 100 адмен морвы белай, клясыфікацыя каторых аднак-жа вельмі невыразная. Адмены гэтыя розьняцца між сабою перадусім вялічынёю і формамі лісьця, рознымі ступенямі пажыўнасьці, вытрываласьці на маразы і вымаганьнямі што да глебы.

З найбольш пашыраных адмен трэба падаць: *Morus alba vulgaris, M. a. rosea, M. a. indica, M. a. latifolia і M. a. Lhou.*, лісьцё каторых можа служыць як корм вусеніцам шаўкапрада.

### Размнажаньне морвы.

Морву можна размнажаць з насеньня, адкладаў і зрэзаў, прычым найлепшыя экзэмпляры дае сяўба.

### Сяўба морвы.

Прыгатаваньне насеньня. Насеньне можна прыгатаваць самому, або купіць. Пры купляны ня трэба забывацца, што насеньне морвы мае здольнасьць прарастаньня толькі ў працягу 1—2 гадоў, і таму да сяўбы трэба выбраць толькі аднародныя зерняты.

Хочачы прыгатаваць самому насеньне, трэба яго сабраць з найбольш здаровых дрэў, найлепш з каторых лісьцё ня было зьбіранае ў працягу году, аж нават некалькі гадоў.

Пладоў да збору насеньня ня можна зрываць раней, чым яны пачнуць ападаць з дрэў, г. зн. чым яны ня зробяцца сьпелымі.

Калі ўжо назьбіраецца даволі пладоў, дык тады трэба з іх выпаласкаць насеньне. Робіцца гэта такім спосабам: у якую небудзь судзіну ссыпаюцца плады морвы, дзе выціскаецца з іх сок, а пасьля палошчыцца вадою. Тады добрае насеньне ападае на спод судзіны, а дрэннае разам з масай плавае па вадзе. Ваду з адпадкамі зьбіраецца, а добрае насеньне сушыцца ў цяні і хаваецца ў нязусім сухім мейсцы.

Прыгатаваньне глебы. Глебу пад сяўбу морвы найлепш прыгатаўляць яшчэ ўвосені, ачышчаючы прызначаны на гэта кусок

зямлі з усякага пустазельля і перагорываючы яго на глыбіні дзьвух лапатаў, з добра перагнілым навозам ці кампостам [1]).

Вясною перакопываецца зямля яшчэ раз і дзеліцца на загоны шырокія на 1 метр і 20 цэнтымэтраў. Упоперак загонаў пры помачы кія праводзяцца раўкі глыбіні на 15 - 20 цм. На мэтр такога загону ідзе каля 2—3 грамаў насеньня.

Сяўба пачынаецца вясною, калі ўжо няма прымаразкаў, г. зн. недзе ў другой палове траўня.

На якія два дні перад сяўбою насеньне трэба намачыць у крыху пасоленай вадзе. Пасьля разсяваецца яно ў раўкі, каторыя перад гэтым паліваюцца вадою. Пасеяннае насеньне трэба засыпаць на якія 1—2 цм. добрай зямлёй, найлепш інспэктовай.

Цэлы час аж да ўсходу расьлінак (морва пачынае ўсходзіць менш больш па 12 днях) трэба загоны вельмі дбайна і даволі багата падліваць вадою. Таксама і ў працягу цэлага лета трэба зьвяртаць увагу на адпаведную вільготнасьць загонаў і ніколі ня можна дазволіць, каб загон пакрыўся зверху скарынкай цьвёрдай зямлі.

[1]) Аб кампосьце глядзі стацьцю ў 7 (12) № „Бел. Борці“ з м. пад назовам „Як залажыць кампосную кучу“.

## Апека над сеўкамі.

Калі ўжо маладыя сеўкі будуць мець па 5 лісткоў, тады ў мяйсцох, дзе яны вельмі густа растуць трэба іх рассадзіць. Робіцца гэта такім спосабам: па бакох радкоў севак зямля спульхняецца і вельмі асьцярожна вынімаецца перашкаджаючыя сеўкі (не дакранаючы гэтых, каторыя маюць астацца на мейсцы), так, каб адлегласьць між расьлінкамі ў радках была каля 10 цм.

У такіх-жа адступах садзяцца вырваныя сеўкі на іншыя ўжо перад гэтым прыгатаваныя загоны. Садзяцца яны на такой глыбіні, на якой былі і перад гэтым. У працягу лета трэба часта іх падліваць глядзець, каб зямля была даволі пульхнай.

У першым годзе маладыя морвы вырастаюць да 20—30 цм. вышыні

Дзеля таго, што яны яшчэ зьяўляюцца кволымі, дык у восені, калі ўжо ападзець з іх лісьцё загоны з морвамі трэба накрыць галінкамі ялаўца ці ёлкі і прысыпаць крыху зямлёю, каб яны ня зьмерзлі.

# Садоўніцтва і агародніцтва.

## Якія сарты фруктовых дрэў трэба садзіць.

Хочачы завясьці сад. які-б даваў карысьць, ці іначай кажучы, каб і самому было што зьесьці і суседа чым пачаставаць ды, калі хто закладае сад гандлёвы, каб было што й прадаць, трэба помніць наступнае:

1) Ніколі ня купляць шчэпаў на рынку ад няведамага прадаўца, а набываць дрэўцы ў добрай школцы; на рынку, праўда, можна купіць таней, але там прадаюцца толькі выбаркі і брак ды ніхто не паручыцца за якасьць дрэўца і яго

сорт, 2) купляючы ў школцы ўважаем, каб шчэпы былі здаровыя, моцныя мелі карону з 5—6 галінак і не старыя; найлепш садзіць 3-х гадовыя шчэпы, 3) купляючы шчэпы ня трэба гнацца за шумнымі назовамі, а выбіраць сарты адпаведныя на наш клімат і глебу, уважаючы, каб, у разе патрэбы, плады іх мелі рынак збыту, г. зн. купляем і садзім гандлёвыя сарты.

Да гандлёвых належаць:

## Яблыні.

**Папяроўка белая.** Родзіць вельмі рана, ня вымярзае, адпорная на хваробы, добрай глебы не вымагае, любіць зацішша (вецер вельмі лёгка зрывае яблыкі). Яблыкі сярэдняй вялічыны з ценкай скуркай, саламяна-белага коляру. Спеюць VII-VIII.

**Антонаўка.** Родзіць вельмі рана, вытрывалая на мароз, зямлі добрай не патрабуе, толькі ня любіць вельмі сухое і вельмі мокрае глебы, любіць сьцюдзянейшыя мейсцы. Плады мае даволі вялікія з гладкой ясна-жоўтай з сільным араматам скуркай, мяса яблыка белае, сакавітае, краху кіславатае. Сьпеюць IX—XII.

**Каштеля.** Родзіць пасьля 10 гадоў. На маразы вытрымалая, яблыкі вельмі моцна трымаюцца на дрэве, не патрабуюць зацішша, можна садзіць каля дарог. Вымагае добрай вільготнай, але не падмокшай глебы. На сухім месцы плады драбнеюць Найлепш удаецца на цяжкіх глебах. Яблыкі даволі вялікія, круглыя, крыху пласкаватыя, скурка ясна-жоўтая, мяса жаўтавата-белае, салодкае, ня вельмі сакавітае. Час дасьпяваньня XI – III.

**Белае-салодкае** (Літоўскае цукровае). Родзіць рана, вытрымалае і адпорнае на хваробы, патрабуе добрай зямлі і гнаеньня ды сонечнага і цёплага мейсца. Яблыкі дае вялікія, салодкія з жоўтым мясам, жаўтаватага коляру. Плады добра пераносяць транспарт. Сьпеюць VIII—IX.

**Шэрае** (Струмілаўка). Пачынае радзіць ў 6—7 годзе і родзіць вельмі добра, хварэе мала, зямлі патрабуе добрай цяжкой, на лёгкай не ўдаецца. Яблыкі сярэдняй вялічыні з дасканальным спэцыфічным араматам, на сонцы прыгожа хварбаваныя, мякіш дробна зярністы, вінны; транспарт яблыкі пераносяць добра. Спеюць X—XII.

**Баравінка** (Харламаўскае). Родзіць вельмі рана, не вымярзае, даволі адпорная на хваробы, добрай глебы не вымагае, мейсца любіць сярэдня-зацішнае, плады дае вялікія з прыгожым налётам, гладкой скуркай і сакавітым прыемнае кісьлі смакам.

**Графштэйн Інфляндзкі.** Родзіць даволі рана, адпорнае на хваробы, удаецца на лёгкіх глебах, любіць зацішныя месцы. Плады мае вялікія, стажковатыя, прыгожа маляваныя чырвонымі паскамі, перахоўваюцца да студня.

**Ананас-Бержаніцкі.** Родзіць позна але стала і багата, на хваробы адпорнае, удаецца на багатых глебах, на сонцы лепш хварбуецца. Плады вялікія, вельмі смачныя-дэсэровыя, найдаражэйшае асеньняе яблыка на сталічных рынках. Спеюць X—XI.

**Мантвілаўка.** Родзіць у сярэднім веку, але багага; на хваробы адпорнае, удаецца на ўселякіх глебах, любіць сонечнае зацішша. Плады прыгожа колераваныя з румянцамі з сонечнага боку, вельмі добрыя смакам—дэсэровыя больш салодкія, як кіславатыя, перахоўваюцца дасканальна. Спеюць XI - III.

**Бабушкіна** Родзіць позна, але багата, калі добра гнаіць,(без гнаеньня яблыкі драбнеюць), удаецца ўсюды, лепш на багатай глебе. Плады сярэдняй вялічыні, крыху плоскія, скурка на іх зялёная, пазьней жаўцее, мякіш дробна зярністы, віннасалодкі, вельмі смачны. Плады да-

сканальна пераносяць транспарт. Сьпеюць XI—IV.

### Грушы.

**Вільямса.** Родзіць рана і добра, вымагае добрай і цёплай глебы, а таксама цяпла і заслоны, баіцца маразу. Плады сярэдняй вялічыні, правільнай формы. Скурка на іх ценкая, далікатная, пакрытая пункцікамі на жоўтым фоне з лёгкім румянцам. Плады сьпеюць IX—X.

**Добрая Шэрая.** Дрэва расьце добра, даходзіць да аграмадных разьмераў, на мароз адпорнае, добрай глебы не вымагае. Плады невялікія, шэрыя, сакавітыя, смачныя. Сьпеюць IX—X.

**Кароль Сабескі** Дрэва расьце сільна, вытрывалае, родзіць багата. Плады вялікія зялёна-жоўтыя, добрыя, сталовыя. Сьпеюць VII—VIII.

### Слівы.

**Рэнклёд улена.** Родзіць рана і багата, зямлі добрай не патрабуе. Плады вялікія авальна-уздоўжнай формы, з ценкай, ясна-зялёнай, пры дасьпяваньні вcovова-жоўтай, пакрытай сінім налётам, скуркай. Мякіш зялена-жоўты, сакавіты, салодкі. Пара сьпеласьці палова VIII.

**Рэнклёд Альтана.** Родзіць рана, маразоў не баіцца, вымагае добрай і ўмеру вільготнай зямлі, цяпла і заслоны. Плады вялікія круглыя, з ценкай, ясна філятовай скуркай, вельмі смачныя, сьпеюць у пачатку верасьня.

**Рэнклёд зялёны.** Расьце добра, на мароз даволі вытрымалая, вымагае добрай і вільготнай зямлі, добра ўдаецца на гліне. Плады сярэдняй вялічыні круглаватыя, вельмі салодкія, сакавітыя, сьпеюць у канцы жніўня і пачатку верасьня

**Вэнгерка Італьянская** Дрэва плоднае, не баіцца маразу, вымагае добрай, ня вельмі мокрай ці сухой зямлі і цёплага месца. Плады вялікія з цёмна-шафіровай скуркай з памаранчова-жоўты мякішам, вельмі салодкія, сакавітыя.

**Каралева Вікторыя.** Дрэва вельмі добра расьце і надзвычайна плоднае. Плады даволі вялікія, эліптычна-яйкаватая, сьветла-памаранчова-чырвоныя, сакавітыя, смачныя, сьпеюць у жніўні і верэсьні. Гандлёвая адмена.

### Чарэшні.

**Фрома.** Родзіць што год, маразоў не баіцца добрай зямлі і месца не вымагае. Плады сярэдняй вялічыні, цёмна-чырвоныя, сакавітыя, кіславатыя, сьпеюць у чэрвені.

### Вішні.

**Остгэймская.** Родзіць добра што год, на мароз даволі вытрымалая, удецца на пяшчаных і камяністых глебах. Плады сярэднія, цемна-чырвоныя, сакавітыя, найлепшая на пераробку, сьпеюць у ліпні.

**Шклянка.** Адпорная на мароз, не баіцца дажджоў, удаецца на лёгкіх пяскох. Плады вялікія, цемна-чырвоныя, далікатныя, сакавітыя, сьпеюць у ліпні.

# Як падняць ураджайнасьць саду.

Апошнімі часамі гаспадарчыя арганізацыі вялікую зварочваюць увагу і прапагуюць сярод дробназямельнікаў пашыраньне садоўніцтва; і сапраўды рэч годная ўвагі, бо аматарскі садок г. зн. для ўласнай патрэбы, **павінен быць пры кожнай хаце,** пры кожнай гаспадарцы. Ці яно ў нас так ёсьць? — На жаль яшчэ нам да гэтага далёка, пры тым мусім ведаць, што за граніцай у Чэхаславаччыне, Нямеч-

чыне, нават у ваяв. Пазнанскім ня толькі ёсьць садок пры кожнай хаце, а нават дарогі высаджаны фруктовымі дрэвамі.

Цяпер хачу зьвярнуць увагу тым, каторыя маюць **старыя сады.** Хіба кожны гаспадар, маючый сад хацеў-бы мець з яго карысьць, г.зн. каб ён даваў многа і добрых пладоў і каб што год „радзіў" а не, як гэта цяпер бывае, што сад дае плады цераз год, а то і два гады, ды і тыя не прадстаўляюць сабой большай вартасьці. Рэч ясная, калі наш садок будзе даваць добрыя плады і што год, то гэтым самым ён нам будзе лепей аплачывацца, будзем мець большы даход з таго кавалка зямлі, на каторым расьце сад.

Дык вось дзеля гэтага мы павінны пазнаць бліжэй недастаткі нашых вясковых садоў, каб пры добрай волі і ахвоце маглі іх направіць. Вось галоўныя недахопы нашага садоўніцтва.

1) Церазмерна густая пасадка дрэў,
2) Вельмі загушчаныя кароны,
3) Пазбаўленьне мэханічнай апрацоўкі зямлі ў садзе,
4) Не адпаведны дабор адменаў (сартоў) дрэў,
5) Няма барацьбы з хваробамі і ворагамі садоў,
6) Не ўгнойваньне зямлі ў садзе.

Ведаючы ўсе недамаганьні саду, мы цяпер павінны застанавіцца над палепшаньнем якасьці, маючы на мэце павялічэньне ўраджайнасьці дрэў. Выконываем гэтакія работы:

1) Калі занадта густа растуць дрэвы (малая адлегласьць), што бывае амаль у кожным старэйшым садзе, мусім здэцыдаваць на высячэньне некаторых дрэў, толькі трэба добра застанавіцца, каторыя высячы, каб ня выкінуць добрых гатункаў і старацца высякаць магчыма як найменш.

2) Сад з густымі каронамі трэба прасьвятліць г. зн., на сам перш выразаць усе сухія сукі, калі гэтага будзе мала, то напэўна знойдуцца сукі, якія крыжуюцца, і іх так сама трэба выразаць, апроч гэтага трэба абрэзаць тыя галіны, якія звісаюць да зямлі, якія перашкаджалі нам араць у садзе, і ваўкі (пабегі) растучыя ў серадзіне кароны а так сама і знаходзячыяся на пнях.. Абразаючы сукі, мы не павінны рэзаць ані за далёка ад пня, ані за блізка, а па г. зв. шыйцы, тады раны вельмі скора і добра зажываюць.

3) У нашых садох найчасьцей між дрэў ёсьць дзірван, а гэтак не павінна быць дзеля таго, што: a) дрэвы патрабуюць пульхнай зямлі дзеля доступу паветра, якое патрэбна да жыцьця бактэрыяў знаходзячыхся ў зямлі, а бактэрыі раскладаюць каранькі, лісьцё, і т. п. адным словам арганічныя целы на пажыўныя для расьлін часткі; b) мы пазбаўлены магчымасьці ўгнойваньня глебы ў садзе; c) травы дзервана „абкрадаюць" дрэвы, забіраючы ад іх пажыўныя часьці і ваду, бо трэба ведаць, што дзеля атрыманьня 1 кг. масы расьліна мусіць выпараваць 100 кг. вады. У сухое лета можна заабсэрваваць такое зьявішча, што з дрэў ападае завязь пладоў. Прычынай гэтага ёсьць недастача вады, а вады, як было вышэй сказана, шмат выпароўвае трава, растучая пад дрэвамі ў садзе.

Дзеля гэтага вось трэба сад араць, араць **вясной ды сеяць лубін** і астаўляць яго **незааранным праз зіму,** а на вясну заараць, а гэта дзеля таго **каб мароз не пашкодзіў каранёвай сыстэмы.** Замест лубіну можна сеяць мяшанкі (выка, авёс, ячмень), але **не дапускаць да высьпеваньня насеньня,** бо гэта ад'емна адаб'ецца на плоднасьці дрэў.

4) Часам спатыкаюцца ў садзе зусім неадпаведныя, благія гатункі дрэў; гэтакія дрэвы можна яшчэ перашчапіць на лепшыя. Калі хочам шчапіць старыя дрэвы коратка, то мусім абрезаць навакол пня ка-

рані ў адлегласьці 2 м. а глыбінёй 80 цм. дзеля раўнавагі сокаў (каб пазбавіцца надмернага доплыву сокаў). Ізноў, калі шчэпім доўга на $^{1}/_{4}$ зрэзаных галінак, у гэтакім выпадку абразаньне каранёў не практыкуецца У гэтым выпадку найадпавяднейшым спосабам шчапленьня будзе кажухаваньне.

5) Пні і таўсьцейшыя галіны трэба абскрабаць з моху і „мёртвай", адстаўшай кары, бо ў мох і пад кару, у шчылінкі, матылі складаюць яечкі, з якіх выходзяць гусьвіцы, каторыя гэтак часта аб'ядаюць да шчэнту лісьцё на нашых фруктовых дрэвах, або выходзяць матылі і ў якінебудзь іншы спосаб абніжаюць ураджайнасьць садоў. Саскрабаўшы мох і кару, трэба дрэвы пабяліць вапнай з дамешкай гліны і кароўніка, гэта будзе ахоўваць дрэва ад перамерзаньня, бо пад вясну ад паўднёвага боку дрэва награецца ў дзень, сок пачне кружыць, у ночы затое пацісьне мароз і сок замярзаючы разсаджывае тканкі абкрываючыя дрэва (кару) і апроч аховы ад марозу вапна зьнішчыць зложаныя ў шчыліны яечкі шкоднікаў матылёў.

У восені ізноў трэба дрэвы пабяліць вапнай з дамешкай гліны і кароўніка. Шмат яшчэ ёсьць усякіх хэмічных сьродкаў для нішчэньня шкоднікаў, якія аднак для многіх будуць яшчэ не даступнымі, бо да ўжываньня іх трэба мець спэцыяльныя прылады, апрысківачы; набыць апрысківач дробназямельніку немагчыма. Дзеля гэтага аб хэмічных прэпаратах гаварыць ня буду, а толькі зазначаю, калі-б у каго масава выступіў які шкоднік — хай звернецца да „Станцыі Аховы Расьлін". Wilno, ul. Objazdowa 2, адтуль можна дастаць падробныя парады барацьбы з ім.

6) Калі мы хочам сапраўды мець карысьць з саду і апроч гэтага засеваць якія колечы расьліны на збор, то мы павінны **ўгнойваць глебу ў садзе**. Рэч зразумелая, якбы мы напр. хацелі з аднэй міскі накарміць больш асоб, як хапае ежы ў місцы, то павінны ў міску яшчэ падліць ежы. Не кажу ўжо аб стасаваньні штучных гнаёў у садзе, але абавязкава трэба ўгноіваць сад натуральным, хляўным гноем.

І з тымі, каторыя ня маюць старога саду, а хочуць залажыць новы, малады сад, як да гэтага прыступіць, калі Рэдакцыя мейсца адступіць, пагаворым іншым разам.

6.II.36 г.

*Б. Рабізо.*
абсальвэнт с.-гасп. школы ў Букішках.

---

# З уласнай практыкі.

Хочучы ісьці за поступам і рацыянальна весьці сваю гаспадарку, мусім прызнаць вялікае значэньне штучных гнаёў і стасаваць іх у сябе. Нажаль, вельмі часта на перашкодзе стаіць безграш ўе, і найлепшыя намеры астаюцца няспоўненымі. Аднак некаторыя са штучных гнаёў лёгка могуць быць заменянымі матэрыяламі, якія можа сабе прыдбаць кожная гаспадарка Маю на думцы салетру гэтак горача рэкамэндаваную пад буракі, капусту, памідоры, труcкаўкі і г. д. Навуковыя досьледы даказалі, што зусім тое самае значэньне для расьлін, што і салетра мае — *курыны навоз.* Мала таго — мае тую самую сілу г. зн. 1 кл. курынага навозу цалком па свойму значэньню і сіле адпавядае 1 кіл. салетры. — Апіраючыся на гэтыя досьледы, я ужо ў працягу 4-х гадоў стасую

у сябе на гародзе курыны навоз, з найлепшымі вынікамі. Стараючыся мець якнайбольш гэтак цэннага курынага навозу, зьбіраю яго старанна праз круглы год. Курнік маю з падлогай, якую пасыпаю *попелам*, (попел узбагачывае зямлю — паташом) і ачышчаю яго па магчымасьці кожны дзень, складаючы навоз у адгароджанае сухое мейсца ў хляве. Пад памідоры кладу гэты навоз ў ямкі, перасыпаючы кампастовай зямлёй; пад агуркі кладу ў раўкі ўздоўж загона; раўкі засыпаю кампастовай зямлёй, у якую саджу зярняты; іншыя расьліны, як капусту ды трускаўкі палію гнаёўкай з курынага навозу нейкія 2—3 разы ў працягу іх росту, трускаўкі толькі да часу красаваньня.

Каб прыгатаваць гнаёўку, трэба мець бочку ўкапаную ў зямлю, недзе, ў кутку агароду ці каля хлява. Напаўняем яе да палавіны курыным навозам і заліваем да поўнага вадой. Гэтак трымаем 10 дзён, часта мяшаючы аж да дна. Пасьля 10 дзён можна ўжо ўжываць да паліваньня, бяручы 1 часьць добра размешанай гнаёўкі на 3 часьці вады. Паліваць не часьцей як адзін раз у тыдзень, найлепш падчас дажджу; калі пануе засуха, то трэба раней паліць добра чыстай вадой, а тады толькі даваць гнаёўку.

Стасуючы гэтакае ўгнаеньне не маем ніякіх выдаткаў, толькі крыху працы, якая аднак вельмі добра аплоціцца.

*З. В.*

## Захоўваньне сілы келкаваньня насеньня агародніны.

Доўгасць жыцьця насеньня агародніны зьяўляецца даволі выпрабаванай. Найдаўжэй аж да 8 гадоў захоўваюць сілу келкаваньня насеньня расьлін агурковых, а часам і памідоры. Фасолі і гарохі прарастаюць да 7 гадоў а капусныя да 5 гадоў. Салаты, цыкорыя, морква, радыса келкуюць пасля 3, а часам і 4 гадоў. Салеры, пятрушка, цыбуля, а асабліва пэрэй ўжо праз 2 гады келкуюць вельмі слаба. Насеньня эроматычных расьлін зьяўляюцца добрымі толькі ў першым годзе.

Жыцьцёвасьць насеньня залежыць ад таго, як добра насеньне дасьпела і ад спосабаў яго перахоўваньня. Насеньне якое трымаецца ў халодным мейсцы з доступам сьвежага паветра, заусёды даўжэй захоўвае здольнасьці келкаваньня. Як выпрабавана на агурках і фасолі насеньне старшае, хоць і меньш прарастае, але дае затое лепшую і мацнейшую расьліну. (Э. Янкоўскі. „Агароднік").

(паводле „Tygodnik Rolniczy).

# З чужога жыцьця і прэсы.

## Мёд як лекарства.

### Мёд на кангрэсе дактароў у Інсбрук.

Кожнага году дактары Швайцарыі арганізуюць лекарскі кангрэс, злучаны з выстаўкай прэпаратаў і лекарскіх прыладаў. У часе гэтай выстаўкі (6—8 X 1935 г.) Фэрма Пчаляр. Серотэрапэўтычнага Інстытуту ладзіла паказ мёдаў. Пры гэтай аказіі паказывана на працы др. Цайса і выдадзеную ім літара-

туру для мэдыцыны: 1. Др: Цайс— Вартасьць мёду. 2. Др. Цайс — Мёд як сьродак процiў кашлю 3. Др. Цайс — Мёд як вонкавы сьродак пры гаеньнi ранаў. 4. Праф. Др. Кох — Мёд як сьродак сiлы для сэрца Усе гэтыя працы выдадзеныя па нямецку.

„Пасека Поморска“. *М.*

## Даўжыня пчалiнага язычка.

Вугрыйскi вучоны Dr. Orösi, праф. унiв. у Дэбрэчыне апублiкаваў вынiкi сваiх досьледаў над даўжынёю пчалiнага язычка. Паводле яго дадзеных вялiчыня язычка вугрыйскай пчалы ёсць: 6,3867, пасьля 6,5257 i 6,5676 мм. З пераўнаньняў аўтара вiдаць, што пчолы з Ленiнграду маюць 5,73 мм даўжынi язычкi, з Масквы 6,06 мм, з Тулы 6,26 мм, з Украiны 6,43 мм, з Дэбрэчына (Вугрыя) 6,53 мм з Цiскаўказii 6,64 мм, з Абхазii (Каўказ) 7,01 мм, з Мюгрэлii (Каўказ) 7,10 мм.

„Дэбрэцэнi Шемле“. *М.*

## 125 угодкi нараджэньня Дзержона.

125 Гадоў таму, 11 студнiа 1811 г у Лаўкавiцах („Сьлёнск“), прыйшоў на сьвет славутны пчаляр—дасьледчык Ян Дзержон. Маючы яшчэ каля двадцацьнекалькi гадоў, Дзержон на падставе спасьцярогаў i досьледаў адкрыў, што калi пчалiная матка заплодняцца, тады складае яечкi, зкаторых разьвiваюцца самкi, або рабочыя пчолы; гэтыя апошнiя зьяўляюцца таксама самкамi, але з нязусiм разьвiтымi палавымi органамi. Калi аднак-жа самка астаецца незапладненай — складае яечкi, з каторых разьвiваюцца трутнi. Такiя выпадкi, калi самкi могуць з незаплодненых яечак выдаваць патомства, у навуцы завуцца партэногэнэзай. Гэтыя спасьцярогi Дзержона скора зацiкавiлi ня толькi пчаляроў, але i прыроднiкаў i былi штуршком да далейшых досьледаў над партэногэнэзай. Дзержон зрабiў яшчэ шмат розных вынахадаў у галiне пчалярскай гаспадаркi i быў аўтарам чаргi кнiжак i артыкулаў. У прызнаньнi ягоных заслугаў атрымаў ён шмат мэдаляў ад цароў i каралёў розных дзяржаваў. Памёр, пражыўшы 95 гадоў—26 кастрычнiка 1906 г.

„Leipziger Bienen-Zeitung“. *М.*

## 70-я ўгодкi пчалярскага часапiсу „Moravska Pčela“.

Сёлета Чэхаславацкiя пчаляры сьвяткуюць 70-я ўгодкi сваей „найстарэйшай часапiсi „Мараўская Пчала“, якая пачала выходзiць ў 1857 годзе i дагэтуль працуе для дабра сваiх пчаляроў.

Рэдакцыя „Беларускай Борцi“, ад iмянi Беларускiх Пчаляроў шчыра жадае братняму часапiсу пасьпеху ў далейшай працы.

## Месяц таннай кнiжкi.

Украiнскае Т-ва „Сiльскiй Господар“ у г. сакавiку ладзiць месяц таннай гаспадарскай кнiжкi, каб даць магчымасьць сваiм самым бедным селянам здабыць добрыя гаспадарчыя кнiжкi, бяз якiх ня можа пашырыцца гаспадарчая культура i ня можа паправiцца матэрыяльнае становiшча.

З другога боку Т-ва мае надзею, што дзякуючы значнаму абнiжэньню цаны, кнiжкi будуць прадавацца масава, а сабраная гатоўка дасьць магчымасьць выдаць новыя, неабходныя ў хаце кожнага паступовага чалавека.

## Засьцярога нямецкага мiнiстра здароўя.

Як ведама ўсе дзяржавы падтрымлiваюць сваё пчалярства тым, што прадаюць пчалярам безакцызовы цукар. Сёлета нямецкiя пчаляры атрымлiваюць па 10 кг. чыстага цукру на пчалiную сямью

($^1/_3$ часьць, вясной, а $^2/_3$ у восені). Міністэрства здароўя і дало на гэтую зьніжку 5 мільёнаў марак. То-еж міністэрства зрабіла адну засьцярогу, каб пчаляры не падымалі цаны на мёд. Як ведама цана мёду ў Нямеччыне (як і ў Чэхаславацыі) у 4 разы вышэйшай за цану цукру.

(Паводле Укр. Пасічніка).

## Памёр Іван П Івановіч.

Ведамы югаславянскі пчаляр, адзін з найбольш дзейных сяброў і закладчыкаў Усеславянскага Пчалярскага Саюзу — Іван Івановіч, нядаўна памёр у Белградзе пражыўшы 70 гадоў. Нябошчык быў аўтарам шмат кніжак, брашур і нязлічаных артыкулаў пчалярскага зьместу

„Пчаля“. *М*

## Верхні вылет у вулльях.

Вугрыйскі пчаляр Бочанді ўжо 30 гадоў таму стасаваў верхні вылет у вульях. У Амэрыцы Фінляу ў 1921 г. правёў досьледы з верхнім вылетам. Таксама ў Швэціі і ў Саветах стасуецца верхнія вылеты, а агульна ведамымі зьяўляюцца Люенобургскія каробкі з гэтакім уладжаньнем. Расейскі вучоны пчаляр Бруханенка хваліць стасаваньне верхняга вылету. Шмат пісана ў амэрыканскіх часапісах у гэтай справе. Наагул утрымліваецца тамака пагляд, што верхні вылет прычыняецца да лепшай перазімоўкі пчол і што калоды з верхнім вылетам даюць вельмі мала, або і зусім не даюць раёў.

„Пасека Поморска“. *М.*

## Хвароба пчол выкліківаная кляшчамі.

Родар Вэіппль, абгаварываючы ў аўстрыяцкім часапісу „Бінен-Фатэр“ (№ 6—11, 1935) хваробу выкліківаную кляшчамі. кажа, што хвароба гэтая не зьяўляецца грознай, калі яна будзе пазнаная даволі рана. Далёка больш ёсьць нябязпечнай нозэма і гнілец у ваколіцах дзе зьявяцца гэтыя хваробы.

*М.*

# З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Рана сёлета прыйшла вясна. Мае пчолы добра абляцеліся ўжо 8 сакавіка. Выйшлі з зімы даволі сільныя і здаровыя, але запас мёду маюць невялікі. Трэба цяпер даць запасовыя рамкі з мёдам і зараз жа прыступіць да падкормліваньня на сілу Падкормліваць буду цукрам з малаком, якое заменіць пчолам пяргу, якой яшчэ нідзе ня знойдуць, бо нічога яшчэ ня цьвіце ды і пчолы ня лётаюць — яшчэ за зімна.

У нашай ваколіцы лес мешаны мае вялікую колькасьць клёнаў, якія даюць пчолам самы раньні багаты пажытак, бязумоўна калі спрыяе пагода. Выгадаваўшы на час красаваньня клёнаў вялікую сілу, можна мець надзею, што пчолы зробяць сабе добрыя запасы кляновага мёду, а пасьля добра выкарыстаюць красаваньне садоў. — Бяда толькі, што мяйсцовасьць наша вельмі высокая і адкрытая, дзеля чаго часта пануюць вялікія вятры, якія перашкаджаюць пчолам працаваць і моцна іх аслабляюць. Зімой таксама вятры былі сільныя і маразы большыя, чым у іншых ваколіцах, бо даходзілі да 30°., але пчолы перазіма-

валі шчасьліва на дварэ засыпаныя сьнегам са стрэшкай уключна. Калі няма зімоўкі, то застасаваньне гэтакага спосабу хіба найпрактычнейшае і найлягчэйшае.

*В. З. з пад Вільні.*

МІР, Стаўпэцкага пав.

У адказ на пытаньне, зьмешчанае ў „Б Б.". „Ці гэта праўда", маю гонар паведаміць, што ў канцы лютага с. г. падатны інспэктар з сваім памоцнікам хадзілі па м. Міры і некатарых вёсках, пытаючыся, хто і які мае даход з зямлі, жывёлы і г. д. і колькі хто мае вульлёў пчол. „Наказаў платнічых" яшчэ мы не атрымалі, але падатак на пчолы пэўна будзе, толькі ня ведама колькі. Адносна запраўднага даходу ад пчол, дык я, палажыўшы руку на сэрца, скажу вам: — Толькі ў 31—32 г.г. некаторыя вулькі (мацнейшыя) далі да 14 кг. мёду, але затое ў 32 годзе мёд быў па 90 гр. за кг.

1933 год быў горшым годам на пчолы і шмат хто з пчаляроў зьменшыў свае пчольнікі на палову яшчэ з восені, каб такім чынам заашчадзіць на мёдзе. Інструктары пчалярства пры „кулках рольнічых" а'бяжджалі нашыя ваколіцы, абяцаючы выхлапатаць па 2 кг. без акцызовага цукру, які мы і атрымалі. Прышлося яшчэ купіць чыстага цукру, зразумелая рэч, большую колькасьць і падкарміць да медабраньня. У 1934 г. лепшыя сем'і далі па 6—8 кг., а слабейшыя толькі сабралі сабе на зіму.

У 1935 годзе ня ўсе сем'і зрабілі сабе запас на зіму, а толькі вельмі сільныя далі па пару кг. гаспадару, а слабых прышлося нават падкарміць. Вось, які ў нас стан пчалярскай гаспадаркі за апошнія гады.

Калі-ж скарбовыя ўлады ўздумаюць яшчэ ападаткаваць пчальнікі, дык шмат каму прыдзецца зьнішчыць свае пчолкі.

*Я Лабоцкі.*

# Усячына.

## Расьліна хараства

Мінулі тыя часы і здаецца беспаваротна, калі розныя „знахары" і „знахаркі" пры дапамозе розных чараў і зельля адмаладжывалі ды ўтрымлівалі ці прынамся стараліся ўтрымаць хараство жанчын.

Парачнікі страцілі праўда сваю сілу, але зёлкі пазнаныя, і навукова даследжаныя ізноў вяртаюцца, каб служыць тым самым мэтам, даваць хараство, павабнасьць і маладасьць патрабуючым.

Да ліку такіх зёлак належыць скромненькая расьлінка, падсьнежнік, растучая на жвірох сярод старых руін і пазабытых могілках, пяшчаных узгорках ды на бедных неабрабляных глебах.

Расьліна гэта шматгадовая (вечная) расьце нізка пры самай зямлі, раскладаючы густыя ружачкі свойго лянцэтаватага, крэпка мясістага, цёмна зялёнага лісьця. Падсьнежнік зімуе вельмі добра і ў самую лютую зіму яго, раскапаўшы сьнег, можна знайсьці зусім сьвежым і здаровым, нават ня страціўшым свайго натуральнага колеру.

Лекарскія ўласьцівасьці знаходзяцца ў лісьці падсьнежніка, сабраным і ўжытым у сьвежым стане. Сьвежыя лісточкі падсьнежніка трэба стаўчы ў парцэлянавай ступцы на мяздру, сок з мяздры выціснуць ды змяшаць з такой-жа колькасьцю цытрыновага соку і гэтай сумесьсю націраць на нач твар. Найлепшае срэдства супроць ластаўчынага рабацьця (рас. веснушек).

(І. К. Ц.).

## Няйвялікшая сьвіньня.

У Букарэшце (Румынія) ва выстаўцы пры міністэрстве земляробства можна бачыць найвялікшую ў сьвеце сьвіньню, якая належыць да йоркшырскай пароды, мае 4 гады і важыць 680 кіляграмаў. Год назад важыла яна 572 кгр. і зьядала штодзень 18 кгр. кукурызы і ячменю. Зараз зьядае за дзень толькі 6 кгр. Мае яна у вышыню 1 мэтр 17 цм, у даўжыню 2, 28 м., абём шыі дае 2,03 м.

(Паводле Госп. Кооп. Часоп.)

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Усіх гр. гр. падпішчыкаў, якім належацца прэміі просім якнайхутчэй паведаміць якое насеньне жадаюць атрымаць? ці: медадай, ці лекарскае, ці варыва, каб мы маглі разаслаць іх у першай палове красавіка.**

**Гр. Язэпу Готто** Грошы ад Вас атрыманы. Дзякуем. Грубіня саламяных сьценак 10 цм. добрая. У крыху цяплейшым клімаце, ў Львоўшчыне напр., робяць іх на 6 цм.

**Гр П. Прадуху.** За матэрыялы дзякуем, зьмяшчаем і просім пісаць больш.

Салодкага лубіну ў Вільні няма. Летась адзін гадоўца з пад Вільні выпісаў і пасеяў, але насевак ня высьпеў.

— Сьлівы каўказкай няма таксама. Можаце яе дастаць крыху таней па 8 зл. за 100 шт. але — 3 ці гатунак, у „Zakładach Hodowli Drzew Państw. Instytutu N, G. W. w Puławach, woj. Lubelskie".

— Сьліва гэтая вельмі добрая, як падкладка дзеля шчапленьня шляхотных сьліваў. Але на жываплот ці ня лепш Вам ужыць кусты карысныя для пчол, ужо добра выпрабаваныя?

На жываплот абароны (калючы) найлепш надаецца Галабень (польскі Głóg рас Боярышнікі (Crataegus Oxyacantha). Жываплот з яго моцны, трывалы, густы і непралазны з прычыны сваей калючасьці. Цьвіце зараз пасьля садоў і дае пчолам шмат пяргі вельмі добрай якасьці ды ў той час, калі пяргі ў прыродзе не хапае, а пчолкі шмат яе патрабуюць, можна дастаць таксама ў Пулавах па цане 8 зл. за 100-ню кустоў 2 гадовых і 6 зл. за 100-ню аднагадовых.

— На жываплот дэкаратыўны радзім Сьвідзіму турэцкую (Cornus Stolonifera). Расьце яна вельмі хутка, за лета да 1-го мэтра; на другое лета ужо цьвіце 3 пруткоў можна плясьці кошыкі. Купіць яе можна ў „Spółdzielni Leśników", Warszawa ul. Alberta I. Цаны ня ведаем, бо яшчэ не атрымалі сёлетняга цэнніка.

**М. Бандарчуку.** „Бел. Борць" за студзень— люты Вам высылаем. Дамагайцеся на пошце. Чакаем падпіскі.

**Ал. Данілюку.** Пробны № выслалі чакаем падпіскі.

**М Рагалю.** Высылаем па новаму адрасу.

**Ш. Кулак.** Падпіску атрымалі, дзякуем.

**А. Беламу.** — пісьмо і 2 зл. на Курсы Т.Б.Ш. перадалі.

**Гр. М. Клімовічу.** Пастараемся Вашу просьбу споўніць і аб гадоўлі шоўка прадаў пачаць ужо з наступнага нумара. Новай кніжкі па пчалярству яшчэ няма.

**Гр. А Беламу.** 1 кл. вузы сёлета каштуе 5 зл. (Без перасылкі.) Думаем, што маючы свой воск аплаціпася-б Вам прысылаць яго для перапробкі, асабліва калі б Бы сабралі супольна з суседзямі большую партыю.

У Вільні, дэталічная цана добрага, сьветлага мёду 2,30,—2,40, у гурце—1,80 —2 зл.

За пажаданьні для „Б. Борці" шчыра дзякуем.

Выдавец - Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.